

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 28 (56) 25 жніўня—7 верасня 1993 г. Кошт 5 рублёў

**25 ЖНІЎНЯ 1991 ГОДА ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЕРЭНІТЭЦЕ НАБЫЛА СІЛУ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА ЗАКОНУ. ГЭТАЯ ДАТА СТАЛА ДНЁМ АДРАДЖЭННЯ НЕЗАЛЕЖНАЕ РЭСПУБЛІКІ. СА СВЯТАМ, СЯБРЫ!**

У ГАЗЕЦЕ:



## Наглядны кантраст наменклатурнага рынку





Непрадузяты фотааб'ектыў зафіксаваў гэтыя будынкі на двух суседніх вуліцах дачнага пасёлка, які раскінуўся на былых землях вугкаса «Падбярэззе», на беразе Заходняй Дзвіны.

З аднаго боку, гэта дачы тых, хто на працягу многіх гадоў вёў нас па шляху «развітога сацыялізма», з другога—відавочна, удзельніка афганскай вайны (так растлумачылі нам старажылы). Дарэчы, гэта адна такая хатка, што згубілася там у моры наменклатурных катэджаў. У першых толькі адна праблема: як абыйсці суседа ў архітэктурных лішках, праблемы другога бачны з гэтага здымка.

**Язэп КАЛЮЧКА.**

## Зварот Выканаўчага камітэта Цэнтральнай Рады БСДГ

**ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!**

**Вялікая бяда абрушылася на паўднёвыя раёны Беларусі! Затоплена больш за тысячу жылых дамоў, пад вадой апынуліся лініі сувязі, дарогі, дзесяткі тысяч гектараў сельгасугоддзяў. У раёнах стыхійнага бедства амаль цалкам знішчаны ўраджай, павялічылася радыяцыйнае забруджанне, існуе магчымасць узнікнення эпідэмій, больш за 50 тысяч чалавек пастаўлены на мяжу выжывання.**

**Выканаўчы камітэт Цэнтральнай Рады БСДГ звяртаецца да сяброў і прыхільнікаў Грамады, да ўсіх палітычных і грамадскіх арганізацый, да грамадзян Беларусі і нашых суайчыннікаў за межамі краіны з заклікам прыняць удзел у аказанні дапамогі жыхарам пацярпеўшых раёнаў.**

**Выканкам ЦР БСДГ.**

* * *

**Выканаўчы камітэт Цэнтральнай Рады БСДГ прыняў рашэнне пералічыць 50 тысяч рублёў на ліквідацыю вынікаў стыхійнага бедства.**

*Рэзананс*

## Лекар знайшоўся!

Нядаўна «Выбар» (№ 23) пісаў аб нездавальняючым экалагічным стане ў дачным пасёлку Уланавічы.

10 ды 17 жніўня намеснік старшыні Віцебскага гарвыканкама У. Кічыгін сустрэўся з прадстаўнікамі садаводчых кааператываў дачнікаў. У гутарцы удзельнічалі супрацоўнікі гарСЭС, спецаўтабазы, якая займаецца вывазам смецця. Сп. Кічыгін запэўніў, што віцебскія ўлады будуць кантраляваць праблему ўборкі смецця з тэрыторыі лецішчаў.

**А.Б.**

## Суд падтрымаў настаўніка

Ужо не першы год працягваецца канфлікт паміж настаўнікам гісторыі СШ № 3 Навапалацка П. Галынёй, з аднаго боку і тымі, хто на розных узроўнях кіруе ў горадзе народнай асветай. У чым толькі не абвінавачвалі Пятра Ягоравіча: і экзамены праводзіў не так, як трэба, і дысцыпліны на яго ўроках няма, і наогул, педагог ён дрэнны, бо разважае неяк нестандартна. Менавіта нетрадыцыйныя метады яго работы і членства ў Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі з'явіліся, як лічыць П. Галыня, сапраўднымі прычынамі пазбаўлення яго прэміі па выніках работы за год. Па цяперашніх мерках сума нязначная, але Пётр Ягоравіч мае намер да канца змагацца з бюракратамі, якія заселі ў сістэме народнай асветы. «Тут справа не ў грошах, а ў прынцыпах»,—гаворыць ён.

І вось на мінулым тыдні судовая камісія па грамадзянскіх справах Віцебскага абласнога суда разгледзела касацыйную скаргу П. Галыні і палічыла яе абгрунтаванай. Справа накіравана на новы разгляд у Навапалацкі гарсуд.

**А. Я.**

## Аўтапарк у парку!

Парк імя Фрунзе знаходзіцца ў гістарычным цэнтры Віцебска. Па прылягаючых вуліцах штодзённа імчыць бясконцы паток аўтатранспарту. Таму паветра ў цэнтры горада даволі моцна забруджана выхлапнымі газамі. Здавалася б, трэба павялічваць тут колькасць зялёных насаджэнняў. Але атрымліваецца наадварот. За апошнія некалькі гадоў тэрыторыя парка, а значыць і зялёных насаджэнняў, няўхільна скарачалася. Спачатку камуністычная наменклатура вырашыла размясціць тут свой «штаб» і было распачата будаўніцтва вялікіх памераў гмаха новага абкама партыі. Але партыя развалілася, і цяпер у гэтым будынку—дыягнастычны цэнтр. А побач вырасла яшчэ большая будыніна—Палац культуры прафсаюзаў.

Знішчэнне парка працягваецца і ў нашы дні. На яго тэрыторыі будуюцца гаражы (гл. фота А. Лакоткі). Пры гэтым парушаецца зона ахоўнага ландшафту, гістарычнай забудовы, і археалагічны культурны слой, а таксама заканадаўства аб капітальным будаўніцтве.

Ці ведае, што робіцца ў парку, генеральны дырэктар аб'яднання паркаў Віцебска С. Вішнякоў, які па абавязку службы павінен клапаціцца пра захаванне і развіццё паркавай гаспадаркі горада? Што думае на гэты конт вышэйстаячае начальства з гарвыканкама? Ці ўдасца спыніць знішчэнне парка?

**А. ЯСНЫ.**



## Паважаныя віцябляне!

**8 верасня а 18 гадзіне на плошчы Волі адбудзецца святкаванне Дня беларускай вайсковай славы—479-й гадавіны перамогі ў бітве пад Оршай.**

**Аргкамітэт.**

*Вакол культурна- рэлігійнага жыцця.*

# Камуністы паверылі ў бога?

Рэдакцыі трапіўся ў рукі цікавы дакумент з назваю «Перспектыўны план рэстаўрацыі й прыстасавання помнікаў архітэктуры на дванаццатую пяцігодку ды на перыяд да 2000 года» (камуністы марылі панаваць як мінімум да XXI стагоддзя). На ім пазначана: «Зацверджаны рашэннем выканкама абласнога Савета народных дэпутатаў ад 20.07.87 № 317».

Як жа планавалі камуністы выкарыстоўваць помнікі архітэктуры Віцебшчыны (а гэта ў асноўным культавыя пабудовы) пасля іх рэстаўрацыі? У розных мэтах, але толькі не па прамому прызначэнню. Напрыклад, у будынку Дабравешчанскай царквы аддзел культуры гарвыканкама меркаваў адкрыць музей, у Пакроўскай—карцінную галерэю, у касцёле св. Варвары—канцэртную залу. Гэта ў Віцебску. А, напрыклад, у Полацку ў будынку царквы планавалася адкрыць планетарый, на тэрыторыі Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра—кемпінг. У касцёле ў вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна кіраўніцтва хацела зрабіць спартыўную залу, у храме вёскі Празарокі на Глыбоччыне—музей тэатральнага мастацтва і канцэртную залу. Канцэртнымі заламі павінны былі стаць таксама царква Куцеінскага манастыра ў Оршы, касцёлы ў Лепеле і Паставах.

Прайшло ўсяго некалькі гадоў, і планы рэзка змяніліся. Цяпер усе вышэй названыя і многія іншыя культавыя будынкі перададзены вернікам і выкарыстоўваюцца па свайму прамому прызначэнню. Добра, што Савецкая ўлада хоць у нейкай ступені спрабуе вярнуць даўгі веруючым, бо поўнасцю іх аплаціць немагчыма—вельмі ж шмат знішчана за семдзесят гадоў. Паступова адраджаецца і адродзіцца духоўнасць, вера ў адвечныя ідэалы дабра, любові, спагады да бліжняга.

Здзіўляе толькі адно: чаму так змяніліся планы кіраўніцтва? Сёння ва ўладзе—тыя ж самыя людзі, што зацвярджалі 5 гадоў назад вышэй названы дакумент. Яны толькі павыкідвалі партбілеты, ды і то не ўсе гэта зрабілі. Атрымліваецца, што камуністычная наменклатура, якая яшчэ зусім нядаўна вызначалася ваяўнічым атэізмам, зараз раптам дружна змяніла свае адносіны да рэлігіі. А можа, тыя, хто намі кіруе ў розных выканкамах, не вераць і ніколі не верылі ў ні ў камунізм, ні ў Бога, ні ў чорта? Можа, ім усё роўна, на каго маліцца—на Леніна, Хрыста ці Алаха? Падзеі апошніх гадоў падцвярджаюць, што гэта менавіта так. З-за абыякавасці большасці народа тон у нашым грамадстве і дагэтуль задаюць людзі беспрынцыпныя і амаральныя. Учора яны абгрунтоўвалі свае дзеянні цытатамі з твораў класікаў марксізма-ленінізма, сёння ў сваіх дакладах і выступленнях спасылаюцца на Біблію. Нядаўна сцвярджалі адно, цяпер—зусім адваротнае. Як можна верыць ім? Канечне ж, большасць нашых суайчыннікаў даўно з імі не згаджаецца, але маўкліва наглядае за іх хамелеонствам, баючыся што-небудзь зрабіць ці сказаць насуперак іх волі, бо ў «хамелеонаў»—улада.

Што ж, як кажуць, Бог усё бачыць. Ён заклікае усіх людзей пакаяцца без уліку зямной улады. Гэта павінна быць шчырае пакаянне. Ды бяда ў тым, што цяпершаняе кіраўніцтва да ўсяго ставіцца бюракратычна бо сфармавалася ў адпаведных умовах і, як мне здаецца, не здольнае шчыра пакаяцца ў сваіх грахах перад народам ды Богам.

**А. ЯСНЫ.**



У Слоніме, пасля шматгадовых дэбатаў мясцовых уладаў ды рэстаўратараў завяршаецца адраджэнне аднаго з шэдэўраў беларускага барока—касцёла святога Андрэя. Справа ў тым, што пры адносна добрым знешнім стане помніка, яго лічылі асуджаным, бо бязглуздая воля мясцовых камуністычных уладароў ператварыла храм у... склад селітры, якая за доўгія гады літаральна «з'ела» ніжні ярус яго муроў.

Вярнуць «здароўе» шэдэўру дапамаглі спецыялісты з Варшавы ў той час, як свае «дабрадзеі» (вядома ж, каб не збядннець ад добрае справы) настойвалі на зруйнаванні «безнадзейнага» касцёла.

Па мастацкіх якасцях са св. Андрэем у адным шэрагу стаяў і віцебскі шэдэўр—славутая Уваскрасенская царква, падмуркі якое да гэтае пары ніяк не здолеюць адкапаць мясцовыя археолагі. Калі ўспомніць нядаўні дабрачынны збор «Тэатральнага марафону», сродкаў на добрую справу хапае, але традыцыйна недзе ды штосьці «муляе» ды не дае зрушыцца з месца гарадскім уладам Віцебска. Вядома ж, стваральная воля у нас заўсёды саступала волі разбуральнай. Няведама, якія «аргументы» сцёрлі Уваскрасенку з твару горада ў 30-я, але, відаць, тактыка віцебскіх варвараў ад улады была больш дасканалая за тактыку слонімскіх.

**Алесь МЕМУС.**

**На здымку:** касцёл св. Андрэя ў Слоніме да рэстаўрацыі.

**Фота аўтара.**

## Замест кіно— выстава-продаж

На чатыры дні перапыняецца дэманстрацыя фільмаў у віцебскім кінатэатры «Беларусь». З 30 жніўня па 2 верасня ўключна камерсанты праводзяць тут выставу-продаж аўтамабіляў. Паколькі на гэты тэрмін прадпрымальнікі арэндуюць найбуйнейшы кінатэатр горада, магчыма, нейкая карысць ад гэтага мерапрыемства будзе і «Беларусі».

**А. БУКАЧОЎ.**

# Ёсць такая нацыя

Запомніліся мне словы старшыні Ходцаўскага сельскага Савета народных дэпутатаў Алега Ягоравіча Бохана, які неяк заўважыў:

—Хочаш адчуць сябе беларусам—зайдзі ў Ходцаўскую бібліятэку...

Сапраўды, загадчыца сельскай бібліятэкі ў вёсцы Ходцы Сенненскага раёна Ларыса Уладзіміраўна Паражынская вельмі многае робіць па прапагандзе беларускай кнігі, роднай мовы, культурнай спадчыны. Можа і не варта пералічваць мерапрыемствы, якія яна праводзіць у гэтым напрамку. Адзначу толькі, што яны шматлікія і разнастайныя.

А ў цэлым жа ўражанне па раёну такое, што выкананнем Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» займаюцца толькі аддзелы культуры і народнай асветы, ды яшчэ аддзел запісу актаў грамадзянскага стану.

Нядаўна прэзідыум Сенненскага раённага Савета народных дэпутатаў абмеркаваў пытанне аб выкананні Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Было адзначана, што вельмі ўжо марудна прыжываецца родная мова ў дзейнасці сельскіх Саветаў. Не стала яна пакуль што тут рабочай. Пратаколы сесій і пасяджэнняў выканкамаў пішуцца таксама па-руску. А пра іншыя арганізацыі і ўстановы і гаварыць не варта. У іх няма нават зрухаў да адраджэння роднай мовы.

Што ж тут асаблівага, калі нават адзін з членаў прэзідыума дужа весяліўся, слухаючы інфармацыю па гэтаму пытанню, якая, вядома ж, рабілася па-беларуску. Гэта быў Іван Васільевіч Траян, былы старшыня былога раённага камітэта народнага кантролю, цяпер пенсіянер. Яму была зроблена заўвага, што закон аб мовах трэба выконваць, што неабходна пераходзіць да таго, каб ва ўстановах і арганізацыях, у іншых калектывах рабочай мовай была беларуская. А дома, увогуле ў быце, ён можа размаўляць, як хоча.

—І «чорны варанок» ноччу за вамі не прыедзе,—слушна заўважыў другі член прэзідыума, дырэктар саўгаса імя П. М. Машэрава Мікалай Лявонавіч Цуран.

Гэта так, сілай вывучаць беларускую мову ніхто нікога не прымушае. Але кіраўнікі, адказныя работнікі, безумоўна, павінны валодаць дзяржаўнай мовай у аб'ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў пастанове, якую прыняў прэзідыум.

Праўда, трохі ніякавага ад усведамлення таго, што большасць кіраўнікоў на Сенненшчыне з'яўляюцца мясцовымі ўраджэнцамі, карэннымі беларусамі, і яны не умеюць, не хочуць, саромяцца роднага слова.

Доўгі час нашы камуністычныя ідэолагі даказвалі, што беларусы—гэта сапраўдныя інтэрнацыяналісты, самая інтэрнацыянальная нацыя. І дабіліся многага—ледзьве не знішчылі родную мову, культуру. Назаўсёды запомніся славуты прафесар Абэцадарскі, які на лекцыях задаваў нам, студэнтам факультэта журналістыкі, пытанне: «Якая нацыя будзе пры камунізме?» і сам жа адказваў: «Камуністычная». У многіх з нас засела ў галаве, што размаўляць па-беларуску, значыць быць працаўнікам пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Ды, мусіць, не так гэта. Сапраўдны інтэрнацыяналіст не той, хто сароміцца свайго паходжання, сваёй мовы, сваіх спрадвечных каранёў. Сапраўдны інтэрнацыяналіст той, хто і ў думках, і ў справах застаецца гуманістам.

Мы не павінны забываць, што ёсць такая мова, такая культура, такая нацыя—беларуская. Тады і будзе такая дзяржава—Рэспубліка Беларусь, а не «Северо-Западный край» і не «Крэсы Всходне».

**І. ЛАЗУКА.**

